*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# ЗВЯЗДА

*Газета выдаецца са жніўня 1917 года*

**Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР**

**18** чэрвеня 1991 г. АЎТОРАК

№ 117 (21645)

Цана 10 кап.


# ЗАЯВА

**народных дэпутатаў-камуністаў у сувязі з абмеркаваннем на сесіі Вярхоўнага Савета БССР пытанняў аб дэпартызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый, дэпалітызацыі праваахоўных органаў і нацыяналізацыі ўласнасці КПСС — КПБ**

Паважаныя народныя дэпутаты Беларускай ССР!

Грамадзяне рэспублікі!

У парадак дня IV сесіі Вярхоўнага Савета БССР уключаны пытанні аб дэпартызацыі, дэпалітызацыі і нацыяналізацыі маёмасці КПСС — КПБ. Мы лічым сваім грамадзянскім і чалавечым абавязкам яшчэ раз ясна і недвухсэнсава выкласці сваю пазіцыю па гэтаму блоку праблем, сумленна і адкрыта давесці яе да ўсяго беларускага народа. Робім мы гэта з чыстым сумленнем, таму што нам няма чаго скрываць ад нашых людзей. Погляды камуністаў на развіццё і ўмацаванне дэмакратыі ў краіне, на прававую дзяржаву, ролю і месца любой партыі ў палітычнай сістэме грамадства адпавядаюць канстытуцыйным прынцыпам, дзеючаму заканадаўству, уключаючы законы, прынятыя Вярхоўным Саветам рэспублікі цяперашняга склікання. Яны адпавядаюць таксама агульнапрызнаным прынцыпам і нормам міжнароднага права.

Мы ўсведамляем, што ў грамадстве ёсць сілы, якія пад выглядам разгорнутых у краіне дэмакратычных пераўтварэнняў імкнуцца выцесніць камуністычную партыю з усіх сфер грамадска - палітычнага жыцця, а ў канчатковым выніку — дабіцца яе поўнай ліквідацыі. Жорсткім нападкам падвяргаецца і Кампартыя Беларусі, якая цвёрда і паслядоўна выступае за сацыяльную справядлівасць, супраць рэстаўрацыі буржуазных парадкаў, капіталізацыі нашага грамадства. Не грэбуючы ніякімі сродкамі, у тым ліку і яўна процізаконнымі, дэструктыўныя сілы ўпарта нагнятаюць антыкамуністычную істэрыю, зноў і зноў падштурхоўваюць Вярхоўны Савет БССР да прыняцця антыканстытуцыйных рашэнняў.

Такая пастаноўка пытання раўназначная забароне на дзейнасць камуністычнай партыі — гэта шлях да насілля, да замены дэмакратыі самай жорсткай дыктатурай, непрыкрытым таталітарызмам.

Мы заклікаем кожнага народнага дэпутата, кожнага грамадзяніна рэспублікі яшчэ раз узважыць меру асабістай адказнасці за тое, што адбываецца. Падтрымка патрабаванняў аб дэпалітызацыі, дэпартызацыі і нацыяналізацыі маёмасці КПСС — КПБ можа выклікаць новую хвалю канфрантацыі, паглыбіць раскол грамадства і яшчэ больш аддаліць вырашэнне надзённых праблем жыцця нашага народа.

Некалькі месяцаў назад Вярхоўны Савет БССР, прыняўшы Законы «Аб уласнасці ў Беларускай ССР», «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя», «Аб міліцыі», іншыя заканадаўчыя акты, ужо практычна адхіліў антыканстытуцыйныя патрабаванні. Чаму ж мы павінны перагледаць дакументы, на якіх яшчэ не высахла чарніла?

Ды і самі патрабаванні аб дэпалітызацыі і дэпартызацыі не толькі процізаконныя, але і лжывыя, дэмагагічныя па сутнасці. Праграмныя дакументы новых палітычных партый і некаторых грамадскіх рухаў прадугледжваюць стварэнне і дзейнасць іх структур у працоўных калектывах і па месцы пражывання. Размова ідзе, такім чынам, аб перапалітызацыі і перапартызацыі. У гэту непрыстойную задуму спрабуюць уцягнуць і Вярхоўны Савет БССР.

Дэпутаты - камуністы рашуча адхіляюць проціпраўныя патрабаванні аб нацыяналізацыі партыйнай маёмасці, створанай на законных падставах за кошт сродкаў камуністаў. Нельга дапусціць, каб рукамі Вярхоўнага Савета БССР быў учынены акт абуральнага самавольства і тым самым ажыццёўлены небяспечны прэцэдэнт пазбаўлення палітычнай партыі яе законнай уласнасці.

Нікому не дазволена вырашаць прававыя пытанні ў абход дзеючага заканадаўства, шляхам насілля, націску і самаўпраўства. Будзем жа вернымі савецкім законам, прадэманструем на справе прыхільнасць да агульнадэмакратычных, гуманістычных каштоўнасцей!

Публічна заяўляючы аб гэтым, мы заклікаем усіх народных дэпутатаў Беларускай ССР праявіць палітычную мудрасць, разважнасць, абачлівасць, астудзіць палітычныя эмоцыі, адкінуць амбіцыі ў імя і на карысць народа, які даверыў нам свой лёс, лёс будучых пакаленняў.

**Зварот падпісалі 207 народных дэпутатаў - камуністаў.**

# Рыначныя аспекты партыйнай дыскусіі

## Нататкі з канферэнцыі ў ЦК КПБ

**У мінулую суботу ў зале Пленумаў ЦК КПБ адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Праблемы ўласнасці і цэнавай палітыкі ва ўмовах пераходу эканомікі да рыначных адносін», на якой выступілі з дакладамі сакратар ЦК КПБ А. Трутнеў, намеснік дырэктара Інстытута эканомікі АН БССР М. Нікіценка, старшыня экспертнага савета Дзяржкамцэн СССР М. Чахлоў і першы намеснік старшыні Дзяржэканомплана БССР Г. Вячорка, з заключным словам — першы сакратар ЦК КПБ А. Малафееў.**





Зрэшты, з меркаваннямі і вывадамі, якія прагучалі з вуснаў як дакладчыкаў, так і выступаючых, чытачу будзе прадстаўлена магчымасць азнаёміцца самому, мы ж вылучым галоўнае.

Безумоўна, размова ў першую чаргу ішла аб рамках пераўтварэння ўласнасці, аб тым, канкрэтна, якім чынам праводзіць прыватызацыю, у якіх формах, аб'ёмах, якія вынікі яна можа мець. Спектр меркаванняў быў самы шырокі — ад прапаноў як мага шырэй праводзіць прыватызацыю да яе адмаўлення ўвогуле, ад думак, каб пераважна перадаваць уласнасць працоўным калектывам да катэгарычнага: толькі прадаваць.

Нямала ўвагі было прысвечана праблемам навукова-тэхнічнага прагрэсу, канкурэнтаздольнасці беларускіх вырабаў. Адзначалася, што тут мала радаснага, асабліва пагоршылася сітуацыя ў апошнія гады. Цяжкае становішча можа напаткаць нас, калі ўзаемаразлікі паміж рэспублікамі будуць праводзіцца ў сусветных цэнах. Казахстан, Расія могуць узяць за сваё зерне намнога лепшыя тавары, чым выпускае рэспубліка. Некаторыя прамоўцы ўбачылі менавіта ва ўздыме навукова-тэхнічнага прагрэсу шлях да выратавання, а не ў рынку (хоць, напэўна, варта заўважыць: хутчэй, менавіта рынак і прымусіць уласнікаў клапаціцца аб НТП і канкурэнтаздольнасці вырабаў, увогуле — аб змяненні структуры вытворчасці).

Вядома, не былі абыдзены і пытанні цэнаўтварэння (прычым зноў жа: думкі часам былі рэзка палярнымі), сацыяльнай абароны людзей. Варта тут засяродзіць увагу на словах першага намесніка старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі М. Роша: толькі ў дзяржаўным сектары рэспублікі ў выніку прыватызацыі можа з'явіцца да 1,1—1,2 мільёна беспрацоўных, што складзе пятую частку працуючых, і органы занятасці не будуць да гэтага гатовы (?)...

Закраналіся таксама пытанні эканамічных пераўтварэнняў у вёсцы, прычым цікавым вопытам падзяліўся старшыня калгаса «Чырвоны сцяг» Валожынскага раёна, між іншым — доктар эканамічных навук, С. Шарэцкі, які таксама зазначыў, што яны ў калгасе гатовы даць зямлю ўсім жадаючым — калі ласка, прыходзьце і апрацоўвайце. Гучалі таксама заклікі абараніць дзяржаўную ўласнасць ад разбазарвання — з аднаго боку, з другога — рэабілітаваць сацыяльны статус прадпрымальніка. Адзін з выступаючых заўважыў: такія канферэнцыі трэба праводзіць своечасова, каб пэўным чынам уплываць на ўрадавую палітыку.

З заключным словам, як сказана ўжо, выступіў А. Малафееў. Варта падкрэсліць такую яго думку: пры эканамічных пераўтварэннях трэба кіравацца здаровым сэнсам, разважнасцю і адказнасцю перад людзьмі.

А цяпер — што думаюць тыя ўдзельнікі, якія не выступалі, што яны сказалі б, каб выйшлі на трыбуну?

**В. РАМАНЕНКА, намеснік упраўляючага па эканоміцы Магілёўскага будтрэста № 12, віцэ-прэзідэнт саюза прадпрымальнікаў і арандатараў Беларусі:** Я за тое, каб прыватызаваць усё, што паддаецца прыватызацыі. І як мага хутчэй. Пры гэтым усе метады добрыя, усе іх трэба выкарыстоўваць. Не палохацца, што, напрыклад, пры продажу дзяржаўнай уласнасці яна трапіць у рукі «ценявікоў», пра што, у прыватнасці, казаў сакратар ЦК КПБ А. Трутнеў. А дзе дэкларацыя даходаў? Прычым прадаваць трэба не на конкурснай аснове. Можна, скажам, мець вялікія грошы і не валодаць здольнасцямі да бізнесу. Гэта хутчэй павінен быць конкурс дзелавых якасцей.

Пераважнае права ў правядзенні прыватызацыі павінны атрымаць арэндныя калектывы, якія ўжо па-сапраўднаму зведалі пачуццё гаспадара. Увогуле, арэнда — гэта найбольш мяккая форма, якая вядзе да прыватызацыі. Дарэчы, нельга не ўспомніць тут пра часовую пастанову аб ацэнцы асноўных фондаў, якая стала шлагбаумам на шляху прыватызацыі. Згодна з вызначаным каэфіцыентам ацэнкі вартасці асноўных фондаў гэтыя фонды становяцца даражэйшымі, чым каштавалі першапачаткова, і калектыў ніколі не выкупіць іх.

А цяпер што датычыць бязвыплатнага метаду прыватызацыі. Ужо другім дакладчыкам, М. Нікіценкам, выказвалася апасенне, маўляў, прап'юць, прагуляюць сваю долю. Але ж гэта працэнтаў 10—15. Хачу правесці тут аналогію са сталыпінскай зямельнай рэформай. Было такое, што прапівалі свае надзелы, аднак большасць стала гаспадарамі на іх, і грамадства ў цэлым выйграла.

Я таксама супраць жорсткага кантролю над цэнамі (рынак сам адрэгулюе іх), супраць усякіх абмежаванняў у зарплаце. Мы заяўляем, што рухаемся да рынку, які перш за ўсё адкрывае дарогу прадпрымальнасці, магчымасці зарабляць і ў той жа час абмяжоўваем фонд спажывання, (успомнім пра сярэднюю зарплату ў 480 рублёў). Гэта неразумнае абмежаванне. У прыватнасці, наш арэндны калектыў даўно ўжо вырас з гэтых 480 рублёў.

Нярэдка гучыць, і сёння таксама прагучала, пра беспрацоўе... Наконт гэтага так скажу: я — эканаміст і калі буду ведаць, што мне ў патыліцу дыхаюць яшчэ два эканамісты — выкладуся да канца. Ды беспрацоўе трэба прызнаць нармальнай з'явай. А ўвогуле, у нас і цяпер не могуць выгнаць з работы яўнага гультая...

**В. САБАН, дырэктар Смілавіцкай валяльна - лямцавай фабрыкі:** Далучыць чалавека да сродкаў вытворчасці — гэта заўсёды было асноўнай задачай, таму таксама лічу, што ўсе метады тут — добрыя. Разам з тым, аддаю перавагу арэндзе з выкупам, наш калектыў таксама мае на ўвазе падобную перспектыву. Але вось у чым наша бяда — нестабільнасць, яна і адштурхоўвае калектывы. Возьмем, напрыклад, антыкрызісную праграму — ужо ёю асаджваюць прадпрыемствы. А яшчэ і сёння прагучала, каб строга кіравацца ўстаноўленым для прадпрыемстваў гранічным узроўнем рэнтабельнасці. Калі ж ён перавышаны, забіраць «звышпрыбытак» і перадаваць сельскай гаспадарцы. Вядома, сельская гаспадарка ў незайздросным становішчы, але і падобнае вырашэнне праблемы — вельмі ўжо простае, чыста адміністрацыйнае.

Зазначу таксама: рынак — гэта свабода прадпрымальніцтва. Яе не будзе, пакуль не правядзём дэманапалізацыю вытворчасці. Манапалісты ўзвінчваюць цэны і на тую ж прадукцыю, якая прызначаецца для сельскай гаспадаркі.

**А. МАКСІМОВІЧ, сакратар партыйнага камітэта Мінскага аўтазавода:** Я за ўзважанасць у пытаннях раздзяржаўлення і прыватызацыі, поўнасцю падтрымліваю тую пазіцыю, якая выкладзена ўжо ў партыйных дакументах, г. зн. за разнастайнасць форм уласнасці, прычым з перавагай калектыўных і г. д. Раздзяржаўленне і прыватызацыя не самамэта, павінны праводзіцца ў інтарэсах людзей, важна, каб яны не пацярпелі.

Што датычыць крокаў да рынку, думаецца, галоўны з іх павінен быць накіраваны на тое, каб дэцэнтралізаваць, разбуйніць вытворчасць, вялікімі ж махінамі цяжка кіраваць. Праводзіцца работа ў гэтым напрамку на нашым прадпрыемстве, у прыватнасці, вылучылі з яго асобна, са сваім фондам заработнай платы і матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем, завод калёсных цягачоў. Ствараецца сетка самастойных сумесных і малых прадпрыемстваў. Між іншым, зацікавіла выступленне на канферэнцыі генеральнага дырэктара аб'яднання «Спектр» І. Карповіча, які паведаміў, што яны сваё аб'яднанне разбілі на малыя арэндныя прадпрыемствы.

Адносна прыватызацыі. Аўтазаводскія эканамісты прапануюць свой шлях: браць чысты даход, які ствараецца цяпер і ўжо яго прыватызаваць, вызначаць долю кожнага, выдаваць на яе акцыі.

І апошняе. Ні ў якім разе не павінны стаяць у баку ад усіх гэтых працэсаў камуністы. Прычым іх пазіцыя павінна быць вядомай кожнаму.

**І. БАРАНОЎСКІ, кар. «Звязды».**

## *Падарунак ад пярвічкі*

Новы тэлевізар «Гарызонт» падарыла дзіцячаму дому пярвічная партыйная арганізацыя зборачнага цэха Магілёўскага завода «Зеніт». Сродкі на пакупку камуністы ўзялі з уласнай партыйнай касы.

Кіраўнікі ўсіх пярвічак працуюць на грамадскіх асновах, а замест парткома выбраны савет сакратароў. Яго ўзначаліў намеснік начальніка вытворча-дыспетчарскага аддзела Віктар Малібошка. Такая арганізацыйная структура дазваляе пярвічкам быць бліжэй да людзей, лепш ведаць іх патрабаванні, актыўна дапамагаць у вырашэнні сацыяльных і вытворчых праблем. А пяцьдзесят працэнтаў узносаў, якія раней ішлі на ўтрыманне партапарату, а цяпер застаюцца ў распараджэнні нізавых звенняў, камуністы выкарыстоўваюць па свайму меркаванню. Дапамога дзіцячаму дому аказваецца ўжо не ўпершыню.

**М. НАЗАРОВІЧ, кар. БЕЛТА.**

# У БУРАХ КРЫЗІСУ — ШЛЯХ ДА РЫНКУ



**ПРАКЛАДВАЕ ЎРАД РЭСПУБЛІКІ. ПАТОНЕ ВАШ КАРАБЕЛЬ — УСЁ ГУЧНЕЙ ВОКЛІЧЫ СКЕПТЫКАЎ. УСТАІЦЬ. МЫ ПЛЫВЁМ ПА ВЫВЕРАНАМУ КУРСУ,— СЦВЯРДЖАЕ СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ.**

**НА ЧЫМ ЖА ЗАСНАВАНА ГЭТА ЎПЭЎНЕНАСЦЬ? ПРЫСЛУХАЕМСЯ ДА АРГУМЕНТАЎ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА.**

— Мы вельмі доўга стаялі на беразе і вялі размовы, ці варта наогул плысці да казачнага рыначнага Эльдарада, калі плысці, з кім і г. д.? Ну, пакуль думалі-варажылі — дачакаліся жорсткага шторму. Вось глядзіце, якая абстаноўка склалася ў эканамічным моры рэспублікі. Рэспубліканскі бюджэт на гэты год быў прыняты з дэфіцытам у 3,5 мільярда рублёў. Гэта многа, вельмі многа, асабліва калі ўлічыць, што рэспубліцы да апошняга часу ўдавалася зводзіць канцы з канцамі і не ўлазіць у даўгі. Звярстаўшы рэспубліканскі кашалёк хоць і з мінусам, пачалі шукаць шляхі па скарачэнню дэфіцыту бюджэту. Аднак грымнула спачатку студзеньскае павышэнне аптовых цэн, а затым і нябывалае красавіцкае падаражанне спажывецкага кошыка. Яшчэ з большымі абаротамі запрацаваў друкарскі станок, паскорыліся інфляцыйныя працэсы.

У выніку, калі падзеі ў эканоміцы рэспублікі будуць развівацца нават не па самаму дрэннаму варыянту, экспертныя ацэнкі паказваюць, што бюджэтны дэфіцыт можа ўзрасці ў 1,3—1,5 раза, зніжэнне нацыянальнага даходу магчыма да 20 працэнтаў пры яшчэ большым падзенні аб'ёмаў прамысловай вытворчасці і рэальных даходаў насельніцтва.

Прыкметы непагадзі, якая насоўваецца, урад убачыў яшчэ да хвалі красавіцкіх стачак, што ўзрушылі рэспубліку, і пачаў распрацоўваць антыкрызісную праграму па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва, вынесеную потым на сесію Вярхоўнага Савета рэспублікі.

**— Вячаслаў Францавіч, скептыкі гавораць, што праграм на ўзроўні Саюза і рэспублікі ўжо створана дастаткова, а вось вынікаў не відаць.**

— Так, але ўсё гэта былі, так сказаць, праграмы гутарковага жанру, ці што. А наша праграма — праграма справы. І каб да канца года не патануць у бушуючым моры, мы пачалі плысці і плывём да рыначнай эканомікі. Для гэтага, па-першае, робім усё магчымае, каб скараціць дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту. Як і ў любой сям'і ў цяжкія часы пераглядаюць свой гардэроб і тое, без чаго магчыма абысціся, нясуць на продаж, так і ўрад лічыць неабходным «падцiснуцца», скараціць тыя расходы, якія не дыктуюцца крайняй неабходнасцю. Напрыклад, прыпыняем фінансаванне шэрагу неперашачарговых будоўляў. Няма патрэбы ў гэтыя цяжкія часы заганяць так патрэбныя грошы ў шматмільённыя корпусы і бетонныя палацы. На 25—30 працэнтаў скарачаецца дзяржаўны, урадавы апарат, а таксама апарат міністэрстваў і ведамстваў.

Па нашых падліках амаль 90 працэнтаў адміністрацыйнага персаналу занята ў апараце кіравання прадпрыемстваў і рознага роду гаспадарчых арганізацый. Менавіта тут вялікі рэзерв скарачэння расходаў на кіраванне.

І наогул, у праграме прапануецца зусім іншы падыход да вырашэння праблемы камплектавання гаспадарчых кадраў на ўсіх узроўнях. Гаворка ідзе аб найме, замацаваным кантрактам. Кантракты з кіраўнікамі прадпрыемстваў будуць заключаны ўжо ў самы бліжэйшы час.

**— Я разумею, што праграма накіравана на тое, каб прадухіліць спаўзанне да далейшага крызісу, спыніць інфляцыю і г. д. Але многім не спадабаецца, што яна мае жорсткія непапулярныя меры і прадугледжвае нават скасаванне прыбытку ў прадпрыемстваў, па сутнасці яго пераразмеркаванне. Гэта дае падставу многім апанентам заяўляць, што з яе па-ранейшаму тырчаць вушы камандна-адміністрацыйнай сістэмы.**

— Разумееце, цяпер жа пераходны перыяд да рынку, перыяд складаны і цяжкі — ледзь-ледзь прамарудзіў, і карабель сядзе на рыфы. І ў гэты час надзвычайна неабходна моцная выканаўчая ўлада, неабходна прымаць і непапулярныя сёння адміністрацыйныя меры, асабліва ў частцы рэгулявання вытворчасці і падтрымання ў ёй неабходных прыярытэтаў. І гэта думка не толькі мая, але і шэрагу замежных і савецкіх вучоных-экспертаў, якія прадстаўляюць розныя школы, такіх, як амерыканскі прафесар Норвуд, шырока вядомыя савецкія вучоныя-эканамісты М. Шмялёў і Г. Лісічкін. Аналізуючы нашу праграму, яны падкрэслілі, што і самыя прызнаныя заходнія свяцілы і каманда Рыгора Яўлінскага наўрад ці зрабілі б лепшай яе рыначную частку. Гэта я гавару не ў мэтах самарэкламы, а да таго, што ў выніку шматмесячных работ мы прыйшлі да варыянта пераходу да рынку, які цяпер з'яўляецца найбольш прымальным. Але аб чыста рыначным аспекце потым.

Цяпер мне хацелася б адзначыць, чаму ўрад адстойвае адміністрацыйныя меры, нягледзячы на іх яўную непапулярнасць у розных колах. Справа ў тым, што многія з нашых прамыслоўцаў разумеюць пераход да рынку як магчымасць пабольш урваць у роднай дзяржавы, у сумежніка або проста больш слабага блізкага. Карыстаючыся манапольным правам, дэфіцытам усяго і ўся, скажам, у сістэме будматэрыялаў або ў лёгкай прамысловасці, атрыманымі эканамічнымі свабодамі, узвінчваюць цэны на сваю прадукцыю неймаверна, накручваюць па сутнасці дутыя даходы. Вось глядзіце: у студзені-красавіку гэтага года прамысловыя прадпрыемствы рэспублікі змаглі не толькі кампенсаваць узрослыя выдаткі вытворчасці, але і атрымаць прыбытак у два разы большы, чым за адпаведны перыяд мінулага года. І заўважце, што гэта дасягнута пры значным скарачэнні аб'ёмаў вытворчасці.

Вось уражваючы прыклад. Льнозаводы Віцебскага аб'яднання па нарыхтоўках і перапрацоўцы льновалакна скарацілі яго вытворчасць амаль напалавіну. Цана звычайнай льняной прасціны, якая стала дэфіцытам, паднялася да 50—60 рублёў, а вось прыбытак заводаў павялічыўся больш чым у 10 разоў, рэнтабельнасць — у 8,8 раза. Адзін за адным гэтыя прадпрыемствы пачалі купляць аўтамабілі замежных марак.

Я не супраць пакупкі «мерседэсаў». Я катэгарычна супраць абдзіралаўкі дзяржавы і нашых савецкіх грамадзян пад выглядам рынку. Вось чаму ў сваёй праграме мы прадугледжваем гэты не зусім апраўданы прыбытак выкарыстаць больш разумна, падтрымаць, напрыклад, сельскую гаспадарку. Там жа закупачныя цэны ў асноўным засталіся стабільнымі пры рэзкім скачку кошту тэхнікі, угнаенняў, будматэрыялаў. На мяжы разарэння нават калгасы-мільянеры. І хіба задумваецца іх сусед з таго ж льнозавода, седзячы за рулём шведскай «Вольва», што заўтра ён і зусім акажацца без сыравіны, а ўсё грамадства на мяжы голаду. Вось чаму ў гэты складаны перыяд улада павінна быць не аморфнай, а цвёрдай і, калі хочаце, жорсткай.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# «Адабраць і раздзяліць»?

**Да абмеркавання пытання «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Беларускай ССР у адпаведнасці з прапановамі органаў і асоб, якія валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы, а таксама запытамі, прапановамі і патрабаваннямі працоўных і ўдзельнікаў мітынгаў і забастовак, што мелі месца ў красавіку 1991 года ў рэспубліцы» Вярхоўны Савет рэспублікі прыступіў, калі можна так сказаць, у стадыі высокага псіхалагічнага напружання.**

Справа ў тым, што на прапанову рэдакцыйнай камісіі весці прамую трансляцыю па радыё і паказаць поўны відэазапіс абмеркавання пытання па Беларускаму тэлебачанню парламент большасцю галасоў выказаўся адмоўна. Такім чынам, аб патрабаваннях адносна дэпартызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый, дэпалітызацыі праваахоўных органаў, уласнасці КПСС—КПБ, праходжанні асобамі, прызванымі ва Узброеныя Сілы СССР, воінскай службы на тэрыторыі Беларускай ССР і іншых праблемах беларускі народ зможа даведацца... толькі па афіцыяльных пастановах і рашэннях Вярхоўнага Савета БССР. Дарэчы, такі ж лёс напаткаў і яшчэ адзін важны для кожнага жыхара рэспублікі пункт парадку дня сесіі — «Аб заснаванні паста Прэзідэнта Беларускай ССР». І як ні спрабаваў у сваім кароткім выступленні першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Станіслаў Шушкевіч пераканаць сваіх калег па парламенту, што ў іх «не будзе спосабу адказаць на многія пытанні грамадзян рэспублікі, калі мы тое пытанне, якое яны ўзнялі, будзем вырашаць тайна, паміж сабой...», усё роўна большасць народных дэпутатаў рэспублікі «не паддалася» на покліч галоснасці.

(Заканчэнне на 3-й стар.).



**Свой першы візіт на беларускую зямлю Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II пачаў з наведання плошчы Перамогі ў Мінску.**

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**

*Матэрыял аб знаходжанні Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II чытайце на 3-й старонцы.*

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

